УДК 882.6-1
ББК 84 (4Беи)
І24

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка».*
*Заснаваная ў 2009 годзе.*

І24 **Івашчанка, А.**
Хай так : вершы / Анатоль Івашчанка. – Мінск : Галіяфы, 2013. – 124 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 43).
ISBN 978-985-7021-08-6

У другую кнігу Анатоля Івашчанкі ўвайшлі вершы, што складаліся цягам сямі апошніх гадоў. Халаднаватая метафізічнасць і адстароненасць, характэрныя вершам першага зборніка паэта, саступаюць месца пачуццёвасці, лірызму, а часам – і звароту да вострай сацыяльнай праблематыкі.

Паэт запрашае чытача выправіцца ў захапляльнае падарожжа: ад самоты – да свабоды...

**УДК 882.6-1**
**ББК 84 (4Беи)**

**ISBN 978-985-7021-08-6**

## з чорнага ў белае

знак Вялікай мяжы
круціцца ў кубачку кавы
з малаком
сусьвет –
кубачак кавы
з малаком
віхраслупам
словы праходзяць
паўзь мяне
часам асядаючы на кончыках пальцаў

штодня
уздымаюся на хвалі
і абрыньваюся долу
з чорнага ў белае
з кавы ў малако
стаўлю наладку wifi
унутры сябе
на аўтапошук
так і не падабраў
пароль
пакуль

**Гл. вышэй**

глядзіце вышэй
за вершы пра вежы
за сьнежныя сны
за межы вясны

за с[к]он хмарачосу
вышэй свайго часу
вышэй свайго носу
уласных вушэй
вышэй

за памяць травы
за напаўжывы
LJ
за пасткі клішэ
вышэй

## Аксюмаран

Бывае, я злоўжываю.
Бывае – ўжываю зло.
Паволі зь сябе выпускаю
ліпкае месіва слоў.
Ліпкае зьмесьціва сноў.
Вершаў ня пішуць наноў (2 р.)
наўкола-паўсюль-ува-мне
сьнег
...
сьню мітусьню
сну няма ў сьне
каменьнямі словы ляжаць на дне

Ёсьць той, хто бяз грошай
і – хто на трубе.
Крывіцкія скарбы захрасьлі ў дрыгве.
Сто год пражыве
той, хто ў журбе.
Вершы ня пішуць сябе (2 р.)
...
вачыма мышынымі
цікуюць праз шчыліны
таму іх чапаць
ня страшна, а гадка
ў чаканьні радка
сячыся да ранку

грызьці асадку
поўні аладка
завісла над ганкам
дваццаць шэсьць з гакам (2 р.)
А толку?
Ну так, дзеткі, жонка.
Працуе санвузел,
завітвае бусел.
Але не пра тое тут.
Горла іголка
дзярэ затоена.
Эпоха Ацтою
шукае свой нік.
Тыя, хто з гумарам,
зацэняць аксюмаран
(падкінуў адзін жартаўнік):
забіты лайвджорнал –
адбітак ЛаЖовы
сьвету ня створаных кніг.

## Нарадзіць радок

можа любы,
незалежна ад полу і ўзросту.
Нарадзіўшы радок,
хтосьці гадуе яго,
выношвае зь яго верш,
а можа, – паэму,
з таксікозам, спохваткамі,
усім астатнім.
Хтосьці, нарадзіўшы верш,
трымае яго пры сабе,
як маці ці бацька-адзіночка, –
у сваёй галаве, шуфлядзе
ці на хард-дыску.
Большасьць паэтаў
сьмела выпускае
ўласных вершанятаў
у вялікі сьвет
(хаця, бывае,
пасьля вусьцішна просіць: “Вярніце,
вярніце мне мае вершыкі!..”)
Некаторыя,
нарадзіўшы радок,
пакідаюць кволенькае
скрываўленае цельца
бездапаможна курчыцца на паперы,
канвульсіўна дрыгаць ножкамі й ручкамі,

каб пасьля,
разграбаючы архівы,
натрапіць на аркуш-прасьцірадла
і адчуць сябе на імгненьне
дзіцезабойцам.
Ёсьць і тыя,
хто ўсынаўляе
чужыя радкі,
і тыя,
хто іх тупа крадзе.
*Але*
*не*
*істотна*
*гэта**...

* Апошнія чатыры словы – цытата зь верша Андрэя Адамовіча.

* * *

я не паэта
о крый мяне... матам
паэзія гэта спорт
паэзія гэта эстрада
паэзія гэта пот
і нясьвежыя швэдры
ня ведаю як каму
а мне тут бракуе паветра
скокі й пырсканьне сьлінай
пад чэргі забойных тырадаў
яна ўсё болей нагадвае
сумную клаўнаду

паэзія гэта понт
публіка ставіць балы
перамагае гучнейшы
з трэскам парваўшы залу

яна яшчэ неда-
сканала
дыягназ: хутчэй жывая
але пасярод карнавалу
яе ўрачыста хаваюць

паэзія шоў і сьвята
скокі ды клаўнада
напэўна я не паэта
з такімі раскладамі...

## эпоха П.

сямейны быт трашчыць па швах
і справы у агуле швах
ды поўны рэзрух у мазгах
электарату

у перашкодах дух расьце
калі на хлебе і вадзе
вібрарэжым у жываце
парад парадаў

шахматнай дошкай па вушах
улада абвяшчае шах
звычайны шлях – да праху прах
а мы і рады

у кожным слове тайны знак
краіна патанае ў снах
эпоха пох эпоха нах
эпоха плагіяту

**о мой блог**

штогадзіны абнаўляем анлайны з залаў суда
дзе на лавах – чарговыя ахвяры
крывое рукі крывавага правасуддзя
пракручваем калёсікамі
рэпартажы з плошчаў,
дзе зьвінчваюць і пакуюць пераважна
сяброў і блізкіх тых, што на лавах…
прагортваем фрэндстужкі,
гэтыя несапраўдныя сьпіралі часу
узіраемся ў запыленыя маніторы,
гэтыя няспраўджаныя алефы,
гэтыя люстры Абадоны,
гэтыя чортавы вочы,
зь невымернай гігабайтавай гіблынёй…
клікаем, лайкам, посьцім, перапошчваем,
ставім дужачкі,
абвяшчаем фрэндацыты,
ігнорым закатаванае
(асабліва – у вершаванай форме),
банім, тролім, дыбрым
ну і вядома ж – дастаўляем….
і перш як націснуць кнопку “запосьціць”
хрысьцім манітор і чытаем малітву:
о, мой блог,
дай мне з душэўным супакоем прыняць усё,
што прынясе гэты допіс
OMG

## верш несвабоды*

*1.*

баюся пісаць каб ня быць перапошчаным
баюся казаць каб ня быць цытаваным
баюся выходзіць з дому
каб ня быць разьвіртуаленым

баюся ўключаць замбаскрыню
каб не пабачыць сябе
сярод ахвяраў этнічных чыстак

пабойваюся здымаць слухаўку
каб не пачуць пра хваробу чарговае каляжанкі
якую трэба замяніць
каб засеяць разумнае-добрае-вечнае
у засераныя душы і затраханыя мазгі
дарагіх маіх цехнароў

баюся прыводзіць дзетак
у дзіцячы садок
каб увечары
не пабачыць у іх вачох
смутак ручных зьвяркоў

*2.*

мыю посуд каб супакоіцца
калі вольныя рукі
калі зусім сплінова
сядаю за верлібр

ды я ляплю іх ледзь не штодня
гэтыя вершы несвабоды
(добра што ў галаве)
калі шалёная сучка зьверху
спускае на маіх дзяцей
свайго сабаку
калі штурмуюць амбасады
тыя хто ніколі ня чуў
(даруйце, рыфма)
пра Курапаты
калі нацыянальны гонар
ёсьць суцэльным хорарам
гісторыя абярнулася гістэрыяй
і знакамітыя міты
адно дзеля мітынгаў
калі абвяшчаецца чарговая бяздарная
перамога Потнага Джэка
калі ў позірках
нават самых лепшых
бачу сыты супакой
сыты супакой
тупы супакой
калі...
...
хрышчу паветра
хрышчу замбаскрыню
заўжды перахрышчваю
галовы дзетак
перад сном
хтосьці скажа, што ад майго праваслаўя
добра патыхае забабонамі...
хай так
хай так
*what the fuck*

* Тэкст напісаны для праекту "Верш на свабоду".

## па-за кантэкстам

па-за кантэкстам
стужак бяз дужак
тушак бяз душаў
вершаў пра сэээээксы
па-за кантэкстам

цёмных і сьцёбных
новых хрэновых
тэкстаў гратэскных
па-за кантэкстам

сьпінаў асьліных
рамаў і хараў
ма[і]рных пратэстаў
па-за кантэкстам

доўгіх тырадаў
дозаў бязь *йаду*
чыста па дэзу
па-за кантэкстам

маршаў-на-фаршы
фашаў пад гашам
брэйку бяз дэнсу
па-за кантэкстам

скрыпкакафоніі
дзяржфілармоніі
інсектавых сектаў
па-за кантэкстам

па-з***а*** каляінай
кандовай краіны
пантоў пантамімных
(чакалі *голимых?*)
псеўда коньцэпцый
па-за кантэкстам

я па-за кантэкстам

я

## Яны

*Госпад Бог трохі пралічыўся з зыходным матэрыялам; тут, у сямнаццатым стагоддзі, на кожнае цела яшчэ прыходзілася па душы. У нашым, дваццаць першым, целаў было ўжо нашмат больш, чым душаў.*

**Наталка Бабіна. “Рыбін горад”**

*я болей не магу жыць побач з тымі абыякавымі мільёнамі, якія працягваюць класьці сваё збожжа туды, дзе яго абавязкова заўтра зноў спапяліць маланка. Мне млосна ад непраходнай упэўненасьці гэтых мільёнаў у тым, што мы жывем у самай лепшай краіне, асноўнай заслугай якой зьяўляецца адсутнасьць вайны...*

**Віктар Марціновіч. “Сьцюдзёны вырай”**

Пакуль мы пісалі дапаможнікі
па выжываньні ва ўмовах дыктатуры
і абаранялі дысертацыі
па барацьбе з крывавым рэжымам,
марылі нарадзіць прэзідэнта
(альбо – наадварот),
яны
    проста
        жылі.

Калі мы, выпусьціўшы пару,
нашосіўшыся ў ліфтах, наляпіўшыся налепак
і нажабіўшыся на сьценах сацсетак,
вярталіся да сталоў
яны налівалі нам штрафную й пыталіся:
ну як яно было ***там***?

І хтосьці распавядаў са сьмехам,
як хаваўся па кавярнях,
хтосьці, чухаючы адбітыя ныркі,
суха апісваў, як уцякаў,
пераскочыўшы праз кардоны...
Але ўсе разумелі,
што распавядаць няма пра што.
Яны і так усё бачылі.
Гэтак жа,
як у анлайне бачыў вар'ят
за пультам кіраваньня сусьветам,
вышукваючы хлопчыка з выбухоўкай,
замаскаванай пад тэрмас...

Калі мы сьпявалі ля вогнішча русальныя песьні,
яны адчынялі ўсе дзьверы сваіх тачылаў
і давалі гуку напоўніцу.
А калі мы зрывалі глоткі іх перакрыкваць
і ў іх сядаў акумулятар,
мы распаўзаліся па намётах.
Тым часам яны даставалі з багажніка запасны...

Не, яны не перамаглі,
і мы не прайгралі.
Нельга перамагчы,
ня ведаючы пра тое, што ідзе вайна.

Яны жылі...
І множыліся,
і забівалі дзетак у сваіх улоньнях
рознымі хітрымі спосабамі
(у адпаведнасьці з тыднем цяжарнасьці).
Калі мы, зьмірыўшыся,
пачалі жыць
і, аднойчы прачнуўшыся,
зразумелі нарэшце, што мы цяпер –
як бы таксама яны, –
было ўжо позна.

* * *

чаго варты верш?
пляўка на ходніку?
усяночнага праседжваньня ў кухні
перад пагаслым ноўтам
у рэжыме чаканьня?
томіка сумнеўных тэкстаў,
у якіх адзін з трохсот шчасьлівых уладальнікаў
знойдзе *свой* радок?..
...
і няўжо ён сапраўды быў шчыры, калі напісаў,
давячыся крывавым кашлем,
*я не самотны*?

* * *

*Чытаючы “Ксты” Барадуліна*

Мая малітва –
заўсёды бітва
між Зьверам,
Богам
і сабой.
Той пераможа,
хто збочыць зможа, –
сядзець
і назіраць двубой.

* * *

*Алесю Разанаву*

ранак сустрэне
састылай гарбатаю
горад абвешаны
яйкаквадратамі
нас расстраляюць
са сьнежных гарматаў
вы не заўважыце
гэткае страты

## Брату

*П.С.*

Без аховы
ісьці да мовы
паўз шолах спаленых кніг...
Да зьнямогі
чакаць перамогі
пад пільным паглядам сьвятых...
Ад самоты
і да свабоды –
уздых!..

* * *

*Севу Сьцебураку*

Мы задужа чульлівыя,
каб тут звацца паэтамі,
і задужа празрыстыя,
каб хадзіць у шыхтах.
Пажыцьцёва цнатлівыя,
бездакорна разьдзетыя,
з абсалютнымі слыхамі
не патрапім у такт.

## Кантралёр

*Віктару Жыбулю*

Сыры ранак. Сакавік.
Сядаю ў аўто.
Грэю рухавік.
(рыфма выпадковая)
Звыкла зашчапляю
панэль магнітолы.
Грае “Ulis”.
Пахістваюся ў такт.
*Час вяртацца,*
*вяртацца дамооў...*
Уздрыгваю – рука
на маім плячы.
Гляджу ў люстра –
ззаду чэл
ва ўніформе кантралёра.
“Ваш квіток!”
“Няма”.
“То плаціце штраф
альбо выходзьце”.
Вядома, выходжу.
Кантралёр застаецца.

## краіна сэканд-хэнду

*Гэта краіна паўночы бяз сну...*
**Дзьмітры Плакс**

бэушныя машыны
бяздушныя жанчыны
бэтэшныя навіны
гэбэшная краіна

бэушныя жанчыны
бяздушныя машыны
гэбэшныя навіны
бэтэшная краіна

бэушная краіна
бяздушныя навіны
...

## Лёгкасьць быцьця

*Сярожу Прылуцкаму*

горлам паперла
знутры накаціла
высмоктвае папера
апошнія сілы
чырвоным па белым
словам-трацілам
паэзія памерла
мяркуюць мудзілы
паэзія памерла
музыка сканала
слоў заўжды нямерана
ды сэнсу штосьці мала

Разьбіў сваё люстра
Дарыян Грэй.
Зрабіў Заратустра
духоўны апгрэйд.

У слоіку палітыкі
падаставалі й мераюцца.
Стогнам паралітыкаў
дасюль камусьці верыцца.

У нашых мерцьвякоў
пыл вякоў па-над вечкамі.

Таньчыць сьмерць вакол
з задзьмутымі сьвечкамі.
Лёгкасьць быцьця
не зьмяшчаецца ў радок.
Да забыцьця
дзьве цягі і глыток.

* * *

*Натальлі Русецкай*

крылатыя вершнікі
кудлатыя вершыкі
пярнатыя коньнікі
стракочуць бы конікі
з-пад стосаў паперы
у белай траве ры-
фмары-інтраверты

падрыгвае пер’е
з-пад пальцаў нясьмелых
выскокваюць перлы
пярнатых пісьменыкаў
крылатых пісьметнікаў
рыпяць іх прапелеры
у стосах траверы
кудлатыя зьверы
very
*ы-ы-ы-ы*

*Красавік 2012, на шляху зь Любліна*

## маЛітва

*Калі ўдача цябе пакіне,*
*і жана дарагая, і дочкі,*
*за гарой застанецца Вільня,*
*за гарою прачнешся аднойчы...*

**Тацяна Сапач**

за вокнамі мулкі вечар
і стома сядае на плечы
і сьнежаньская халадэча
і ў сэрцы зеўрыць пустэча

далонь на касьцельных парэнчах
пад лаваю нечыя рэчы
і чысты позірк хлапечы
і сьвечы
сьвечы трапечуць

ля гэтых старэнькіх парэнчаў
ты раптам ціха укленчыш
у сэрцы зіма й халадэча
вусны бязгучна шэпчуць

“О, Л***і***тва, – мая малітва,
О, Вільня, – мая багіня,
О, Вільня, – мая вайна...

Тут кажуць Вільнюс і Мінскас,
тут Вітаўтас і Гедымінас
і ў барасах танны гінас
Ты, Вільня, – мая віна?”

(зрабіўшы па барасах шпацыр
у сьвеце інакшым убачыў
усё і крыху перайначыў
паэт свайго верша фінал)

О, Вільня, – мая багіня
ты, Рыга, – мая вярыга,
ў Заслаўі маё зласлоўе,
Стакгольм – дарагі алкаголь

Гароднія глядзіць гаротна
у Вільні ня рохкаюць сьвіньні
за Мінскас мы ставім мінус
паўзе пакрысе мяжа

у Мінску я маю прапіску
у Менску – мая душа

## Плошча

*Барысу Пятровічу*

Сонца ў вочы,
“Крама” на сцэне,
усё нармалёва нібыта,
але тыя ночы
біцьця й нябыту,
хто іх ацэніць?

Енкі са сцэны:
“Хлопцы, сьвяткуйма,
хутка рэжыму вілы!” -
рэхам у зрэнках
пеўня ў цывільным:
“х… вам!”

Завеяй горад
горла палошча,
у скронях сталёвае скерца…
Скуль пачынаецца Плошча?
З сэрца.

Берцаў злавесны пошчак,
і нават у мужнага
пераймае дых.
Воля пачнецца з Плошчы
вымавіць хтосьці ўслых.

Жывейшы за многіх жывых
наш нябожчык,
ды сонца ўзыйдзе праз смугу.
Адзіным дыханьнем
выгуквае плошча:
Разам!..
Жыве!!
На муку!!!

## Адрынуты (-я)

*Паўлу Севярынцу*

Адрынутыя –
ты,
я,
мы.
На вуснах патрэсканых
прысмак зімы.
На вуснах скрываўленых
прысак вайны.
У лоб дубальтоўку наставіла восень.
Бы высыпкі воспы
на целе радзімы, –
“хіміі”, зоны, астрогі.
Гуглі ня гуглі –
ня знойдзеш дарогі
да пункта з назовам Куплін.
Халодныя вочы,
няўтульныя зімы.
Пачварныя плямы
на целе радзімы.
Няўтульныя вочы,
халодныя зімы.

Плямы – мы.
Нас тысячы.
Ты сячы,
а мо й мільёны.

Зьзяюць зьнічы
сярод гэтай начы.
Цэлы народ замкнёны.

Колькі такіх,
каго безь віны,
ўшчэнт, падыспад,
у тыя віры?..
Ці маецца дно
у глыбіні?

“*Хімік*” –
гэта ж ад “*схімніка*”?

З узбочыны скрушна
тарашчыцца крушня.
Вось сімвал сьцюдзёнага выраю.
Заўважана слушна.
*God, where are You?*

Яны адграбуць, Паша, помні
па поўнай.
Хоць тое й ня наш,
хрысьціянскі, метад.
Але ж адграбуць, Паша,
ведай.

## Ранішнія людзі

*Я где-то читал о людях, что спят по ночам…*
**БГ**

*Допустім, я ночная птица, скажем, я – сова.*
*Мне ночамі не спится, – я делаю слова…*
**Аляксей Раманаў**

*я падазраю: на маё жыцьцё выпала ноч*
**Барыс Пятровіч**

…верш паўзь мяне прарастае
зьнізу ад кончыкаў пальцаў
цягнецца плаўна па сьцёгнах
сьпіне руках і грудзях
перамяшаны з крывёю
й сочывам папараць-кветкі
каб чарапіньне раструшчыць
парасткам новага слова

…верш прарастае уночы
зранку ж устану на золку
каб напаткаць невядомых
дзіўных нязнаных людзей
тых што кладуцца ня позна
прамармытаўшы малітву
ці пра сябе праказаўшы
(можна як што й пра сябе)

ці безь ніякіх малітваў
пад галівудскае мыла
ці – нетаропкае порна
ці проста тупа кладуцца
ў ложкі з партнёрам ці без
хтосьці глытаючы таблы
хтосьці бяз таблаў і траблаў
хутка сабе засынаюць
ведаючы што прачнуцца
поўныя сіл і здароўя...
ведаючы што прачнуцца

не, можа быць яны ў курсе
што ёсьць падставы для суму
што дзесьці несправядлівасьць
чыніць крывавы рэжым
ў Афрыцы дзеці канаюць
ў лесе маньякі цікуюць
плюшавыя дэсантнікі
скачуць на галаву

толькі ці ж гэта зашкодзіць
можа законнаму сьненьню
пасьля працоўнага батлу
тых каму хлеба стае

я пазіраю бяз злосьці
без аніякай пагарды
ў вашыя сьвежыя твары
ў чыстыя вашы бялкі
я адкажу на ўсьмешку
шлангам прыкінуся ў дошку
хай мяне лічаць таксама
ранішнім жаўранкам хай

толькі чырвоныя вочы
толькі марудныя рухі
толькі падрыгваньне пальцаў
скажуць: ты, хлопча, – пугач.

толькі раструшчаны чэрап
з чэзьленькім парасткам слова
не заўважаным звонку
выгадаваным радком

## Яна

*Дачцэ*

Яна прыйшла, калі туман...
І золак танчыў на абрысах.
І сьнег бы ў сьне,
і лес быў лысы.
І празь яго твой цень ступаў.

Яна прыйшла, калі туман...
Радкі усмокталіся ў лёсы
і унутры цябе – пялёстак,
і кроў твая, бы атрамант.

Яна прыйшла, калі туман
сьцякаў бялюткаю прасьцінай,
працяты дзідамі ялінаў.
Яе імя – ў ім інь і ян.

Яна прыйшла, калі сьляды
разблытваліся у паветры
і старадаўнія павер'і
разносіў вецер малады.

Яна прыйшла калі туман
яго глытаў я й быў ім п'яны
і вымаўляў бязгучна: Яна
зьяднаныя мы ў ёй. *Ам**а**н*.

*Сьнежань 2005*

## Ты

*Дачцэ*

Ці памятаеш, быў туман,
як ты прыйшла. І месяц цэлы
ты празь яго на сьвет глядзела
і сьнілася табе зіма.

Ці памятаеш? Пэўна, не, –
зіма пасьля была на яве.
Яна табе сьпявала: *“Ave!”*,
каб месца саступіць вясьне.

Вясной у татавых вачах
плылі сумёты ды намёты.
На сьнезе белы птах свабоды
да нас зьяўляўся па начах...

А потым у належны час,
забыўшыся на першамову,
ты вывучала нашы словы,
а мы вучыліся маўчаць.

Ці памятаеш, быў туман,
як ты прыйшла. А сёньня – сьвята
тваё і пралетарыята,
і сон на яве, і зіма.

*6-7 лістапада 2006*

## цяжарны

чуе мае крокі
на мяккай распаранай глебе
вечаровых прысадаў
праз сон.
яе цёплае дыханьне
з посьвістам
патанае ў маім швэдры.
далонькі сасьлізгваюць
з джынсу расшпіленае курткі.
пераняўшы тваю цяжарнасьць
намагаюся рухацца
як мага цішэй
але ня здольны
ўратаваць ад сполаху
празь віскат тармазоў
ці клаксон аўто
дачку
што сьпіць у “кенгуру”.

## Па выпісцы зь лякарні

*Даніку і Яне*

Вашыя вочы чысьцяць мне аўру.
Ведайце, ўсе мы крышку кентаўры.
Дзяўчо маё голаў хавае, бы *стравус*,
як бачыць у белым людзей. Мой тэзаўрус

пашырыўся значна медычнаю лексікай.
Нехта прывёз пацыента на “Лексусе”.
Ніхто – ні багаты, ні бедны – ад вірусаў
не застрахаваны. Хады ўсе запісаны.

Ня знойдзеш канцоў, але трэба пакаяцца.
Тут пашкрабеш – за сьцяной адгукаюцца.
Сінтэз малітвы і медытацыі –
шлях прымірэньня emotio з ratio.
...
Восень разьдзьмула штакеціну вогнішча,
лайнер пікуе з клёну на лётнішча.
Волат наш сьпіць у вазку-цягнічку,
бачыць у сьне залатую раку.

Раптам завітвае Веданьне ў голаў,
цела працяўшы пяшчотным уколам:
вечнае кола ў надзейнай далоні,
мы у палоне,
ў *Бацькоўскім улоньні.*

*Кастрычнік 2007*

## Сярэдзіна

Калі дачка нарэшце роўна задыхае
пад маёю далоньню,
і я, мацюкаючы рыплівую падлогу,
прадзяруся да кухні,
дзе мы ўдвох, –
я і ноч,
раптам зьяўляецца *столькі часу*!
І ад пачатку ня ясна,
што зь ім рабіць?
Тупа пайсьці ў ложак?
Раскоша й марнатраўства.
Выціскаць зь сябе сілаба-тоніку
ці, горш, дабіваць аповед?
Няма сілаў.
Застаецца сярэдзіна.

А далей мажлівыя некалькі сцэнараў:

*1.* напоўніць-кульнуць келіх
і паўгадзіны ўтыкаць
у чысты аркуш.
*2.* напоўніць-кульнуць келіх,
пасьля ўкалоцца дазьняком хлеба з салам,
выключыць сьвятло й самадастаткова
ўтыкаць у бязвобразна-неметафарычны
краявід за вакном

*3.* ты напоўніш келіх,
і... цябе накрые

*Ты зноўку вернесься ў гэты горад, дзе дзетак вучаць вызначаць лёс па палёце пакету, дзе між фатэлямі ды цэлафанам засталіся пахі самых блізкіх табе людзей, дзе нявыказаныя словы, што стварае адлегласьць, дзе шмат сноў таму на рагу чырвонай і камуністычнай ты сустрэў чалавека які моўчкі спыніў цябе а ты абыйшоўшы яго пайшоў далей каб сустрэцца яшчэ з адным які падорыць табе новы зборнік вершаў паводзіць рукамі над тваёй галавой скажа штосьці пра шлях выдатна разумеючы што ўсе словы ўжо там у кнізе кнізе-бомбе якую ты панясеш у сваёй палатнянай торбе… І ты знойдзеш сябе за адным столікам зь першым, у кавярні, што на рагу… Вы павітаецеся, абмяняецеся кантактамі, і ты зьдзівісься, што за столькі год яго нязграбны почырк зусім не зьмяніўся…*

Вось таму мне й падабаюцца болей
першыя два варыянты.

* * *

дзеткі маршыруюць
шыхтуюцца ў пары
бяруцца за ручкі
раз-два раз-два аць-два...
выхавацелька зь фізкультурніцай
выводзяць дзетак на зарадку
фізкультурніца паперадзе –
паказвае куды бегчы дзе пералазіць
кажа да якой прыступкі можна ўзьлезьці
выхавацелька – замыкае. чэ-
злыя вочкі
крытычна аглядаюць
стракатую калону...
дзетак шмат,
мо тры дзясяткі
дзеткі маршыруюць
заклаўшы рукі за галаву
з боку гэта выглядае алегарычна
але выхавацелька зь фізкультурніцай
пра тое ня ведаюць
“Як яны спраўляюцца, бедныя,
з такой вялікай групай?” – шэпчуцца мамкі.
Вельмі проста, паверце!
Яны ня ўмешваюцца.
Не перашкаджаюць дзейнічаць Закону,
старажытнаму Закону зграі...

вось дзеткі пераадольваюць жардзіну
трэба ісьці расьпяліўшы ручкі
як канатаходнік
спрытнейшыя засковаюць першыя
тых хто адстае ад тэмпу
хто ня можа шпарка ўскочыць
падштурхоўваюць дзеткі з чаргі
незадаволена шыпяць:
*давай, давай же, залазь!..* –
імітуючы раздражнёны голас фізкультурніцы
фізкультурніца пляскае ў ладкі:
*в темпе, в темпе,*
*раз-два, раз-два...*

І вось тут –
на жардзінцы,
на лесьвічцы,
на гэтай дзетсадаўскай пляцоўцы,
у іх,
у нашых дзетках,
забіваюцца ўласныя рытмы,
і жаданьні,
і галасы.
Раз і назаўжды.

## Жывы

гляджу на свае далоні
счышчаю зь іх зямлю
назіраю
як месцамі лопаецца скура
і ўтвараюцца новыя барозны
лініяў лёсу й жыцьця...

цякуць
насы, тасол, кран, вочы
(патрэбнае закрэсьліць)
спакушае грэхлама
*асьцярожна, зьверы,*
*зачыняюцца дзьверы!*
цяпер урытмаваны
дзеткамі, сьветлафорамі,
парадкам слоў у сказе,
набрыналы паглядамі,
разраджаюся ў нікуды;
інэрцыя выпадковасьцяў
трохі карэктуе маршрут,
але Закон вяртае да ранейшае ростані...

медытацыя на пральную машыну
на перыферыі сну
сігнал выключэньня
як кодавае слова
для сустрэчы з сабой...

“Будзем уважлівымі” –
кажуць сьвятар і сьветлафор.
Хто б і што ні казаў –
слухаю маці.

Мухі,
пачакайце шчэ сядаць
на мяне...

## восем месяцаў

*Жонцы*

восем месяцаў чаканьня
напаўшэптавых прамоў
вось яно – наканаваньне
вось яно – выпрабаваньне
трэці раз
усё наноў

ўсё наноў: трызьненьні сьненьні
падсьвядомых прымхаў спам
вечаровыя маленьні
й рытуальныя паленьні
ў фортку
зь ветрам напалам

восем месяцаў маўчаньня
(восем вершаў за ўвесь час)
хваляваньні ад растаньняў
я з табой маё каханьне
*покуль не пачаўся джаз*

* * *

*Настуні*

назіраю за сваёй
маленечкай пястунькаю –
у ружовых калгоціках
на сьмешных яшчэ крываваценькіх ножках,
з даверлівымі гарэзьлівымі вочанькамі,
такімі падобнымі да матуліных, бабуліных
і, што цешыць, –
крышачку да маіх
на чорна-белых фатаздымках –
якая, гуляючыся ў сур’ёзнасьць,
спрабуе ўтрымаць строгі выраз губак,
што хоцькі-няхоцькі
ўрэсьце малююць смайлік
рожкамі ўгару
і паўтарае
падчэпленае дзесьці слоўца:
“сютка”
назіраю
адчуваючы невыказную пяшчоту
і першае маё жаданьне –
мурам цела
парканам рук сваіх агарадзіць
прытуліць
*прытатуліць*
засланіць

захаваць
вось гэтае ўсё
чыстае
сапраўднае
ад непазьбежнага
ад…
ня хопіць пальцаў
(і ня толькі,
барані Божа,
ад гнюсных гумбальтаў
(і ад іх, і ад іх!))
і, можа, нават ад сябе самога…

заўтра
я сам павяду яе ў садок
на поўны дзень

**у падвешаным стане**

у чаканьні калі пад нагамі
бела-жоўтае кепства растане
калі з сэрца адхлыне слата
калі выцячэ з носу вада
ў малітоўна-падвешаным стане
існую паміж сьненьнем і раньнем
між малітваю і спавяданьнем
паміж вераю і спадзяваньнем
між старою і новай зямлёй
між нябёсамі
і сям’ёй

* * *

*Т.*

я ня ведаю
навошта мне шукаць адмысловую рытміку
ствараць нечаканыя вобразы
эксперыментаваць
вынаходзіць арыгінальную форму верша
выдрочвацца з рыфмоўкай
прыдумляць наватворы
займацца іншай падобнай лабудой
...
каб проста сказаць,
як моцна сумую па табе,
Каханая

**маё**

высьлізгвае
бы шчупак
пакідаючы сьлізь
у далонях
у валасох
ува мне.
да ванітаў знаёмыя радкі
складаюцца ў некралог.
адзіная паэтка
падобная да нязьменнай цыгарэты
ў яе рукох.

паветра вакол
крыху хістаецца
гэта тарпеды
лятуць на сьвятло сьвечак
у нашых вокнах
у нашых вачох...

лепім налепкі
на ранак на іх
сьляды кіпцюроў.
дзярмо выцякае з тэлескрыні
на шпалеры, на фіранкі
і вось мы таксама
ў сістэме.

угнараваныя сэрцамі птахаў
хварэем на H5N1.
дыктарка цэліць у твары
сваёю жоўтай сьлінай.
дворнікі што змываюць пляўкі з экрану
працуюць у найхуткім рэжыме.
маё сядае на паперу
курчыцца й шыпіць...

а ў швайцарскіх гарах
у позе сузіраньня
сядзіць чалавек
і ўлагоджвае свой Акіян.
як бы я хацеў
зазірнуць яму ў твар!

*16 сакавіка 2006*

## 72 гады

*“У пачатку сутак лічбы, што абазначаюць гадзіны, хвіліны, секунды й дату выбудуюцца ва ўнікальную пасьлядоўнасьць: 01.02.03.04.05.06. Гэта адбудзецца роўна ў 1 гадзіну 2 хвіліны і 3 секунды 4-га дня 5-га месяца 6-га году новага веку. Згодна шэрагу ізатэрычных вучэньняў, менавіта ў гэты момант у атмасферы Зямлі адчыніцца містычны танэль для касьмічных промняў гармоніі, якія будуць мець выгляд адмысловае энэргіі... Чарговы падобны лічбавы феномен давядзецца чакаць 72 гады...”*

**Стужка навінаў tut.by**

00:20
думаеш, што ведаеш пра сябе ўсё,
але любы мінак ведае болей.
чакаеш гадзіны ночы
(а дакладней – гадзіны
другое хвіліны
трэцяе секунды й так да году)
бо з пэўнасьцю не дажывеш
да наступнага ланцугу.
чытаеш вершы
(праўдзівей – тое
што вершамі названа) –
радкі-дзеля-надзеі
й бачыш як нішчыцца тое
што ледзь не напісаў
сам

00:47
шчэ пасьпееш у душ
і калі пашэнціць
у прыбіральню дзе
00:58
будзеш праглядаць
занатаванае тваім почыркам
і магчыма прыгадаеш
двух грузчыкаў
з заводу лядоўняў
якія вераць у тое што гэта нас
82 %
альбо суседа-гэбэшніка
што зрываў джынсавую стужку
на антэне твайго аўто
ў той момант калі
нас расстрэльвалі сьнегам
19-га...
альбо прыгадаеш
аўтазак што разьдзеліць
людзей у чорным
і царкву з ланцугом
цалавальнікаў мошчаў
альбо
01:04
сядзіш у прыбіральні
танэль
не адчыніўся

*5 траўня 2006*

**Спын**

Каля ўсходніх могілак сталіцы
штоночы валтузьня і шмат машын.
Тут спын аўтобусаў з маскоўскае шашы
(няведама, як пад такое сьпіцца
тым, хто займеў тут свой заслужаны спачын).

Баулы, скрыні, кайстры і валізы,
чачэны, туарэгі, п’яны сьмех...
Ці скажуць ім хоць штосьці там, унізе,
імёны, што прысыпаў надмагільны сьнег?..

Сівы туман плыве сабе зь нізіны,
як той казаў, і быццам бачу я:
вось паўстае з астылых дамавінаў
былая сакаліная сям’я.

Усе ў выдатных чорных гарнітурах,
зь метафізічным сумам у вачох
глядзяць на тых закладнікаў шоп-тураў,
што выгружаюць кілі кілек і панчох.

Вось Караткевіч на сваім пагосьце
расьцягвае бясконцы “Беламор”,
чакаючы кагось на госьці, –
адзін зь нямногіх, хто напраўду не памёр.

Ля агароджы Быкаў і Мулявін
гамоняць, пазіраючы на ўсход,
дзе каралеўны ходніку гуляюць,
шукаючы на задніцы прыгод.

А па начной шашы ляціць таксоўка,
падвозячы сталічных жыхароў.
На хвілю робіць спын ля стометроўкі.
І пазірае з-за стырна сівы Харон...

Непадалёк ад могілак усходніх
зьдзяйсьняюць самадайкі аўтаспын,
а побач несупынны хэлаўін
запальвае нябачныя паходні
для тых, хто выйшаў зь цесных дамавін...

## ноч... успамін...

*Ноч стушыла агні, пад акно*
*падступіла й цікуе жахліва...*

**Уладзімер Жылка**

*Толькі згадкі, халера, згадкі*
*успаміны, блін, успаміны...*

**Андрэй Хадановіч**

за вакном ненажэрная ноч
хочаш вый
хочаш выкінь ёй нож
пад рабрыну ці проста у сьпіну
пацячэ яе кроў па лязе
пі нагбом
кубак ёсьць балазе
а на закусь пакінь успаміны...

паміж намі сто крокаў імжы
не парушыць ніхто
той мяжы
што аднойчы накрэсьлена словам
расхіснутая студня душы
плюй сьмялей –
там даўно ледзяшы
прарасьлі праз палац мармуровы...

## пра “сяброўства”

штодня ўсё меней тых з кім пайшоў бы ў выведку
і болей адпаведна забітых ці выкрытых
“на вашывасьць” ніхто табе ня выдасьць даведку
пра тое даведваемся ціха, бяз выкрыкаў

і я тут не кажу пра бабло ці пра бабаў
нібы Цыцэрон абмінаю банальнасьці
пра тое паслухаеш лепей у бардаў
зь іх неўрастэнічнаю сентыментальнасьцю

зрэшты ня буду шмат распырсквацца сьлінаю
бо ўсё фармулюецца да сьмешнага проста
калі цябе аднойчы шаноўны мой кінулі
то ну яго на ... такое сябroўства

## братэрства

з завязанымі вачыма
у адным чаравіку
крочыш шляхам пілігрыма
паўзь няведаньня смугу

як народзіны – са сьмерці
так і ў гэты дзіўны шлях
выправіцца той хто сьцерці
зможа ў сабе цемры знак

упісанае ў трохкутнік
рыхтык “саступі дарогу”
на твае глядзіць пакуты
перакуленае вока

ўсе сьцяжыны пілігрымаў
ўрэсьце сыйдуцца ў вадну
тут бяз масак і бяз грыму
стрэнеш ты сваю радню...

блізкіх але не па веры
родных ды не па крыві
зарыпелі глуха дзьверы
ты гатовы?
то – жыві!

## ад тыгра да малпы

пракладаю свой шлях
па снах
патанаю ў абдоймах неба
па птушыных брыду сьлядах
па нязьедзеных крышках хлеба

пракладаю свой шлях
па днях
расьпісаных празрыстымі фарбамі
бачу дрэвы ў дарожных слупах
спапялёныя стрэчнымі фарамі

пракладаю свой шлях
па касьцях
улагоджваю гожага зьвера
у гаршчках на сьвятарных пнях
стыне прысак змарнелае веры

пракладаю свой шлях
празь пяскі
без кампасу ды зорнае мапы
нацянькі да чаканай ракі
па трыядах: ад тыгра –
да малпы

## сырадой

як добра зрэдку
пабачыць збоку
якім напраўду
усё тут ёсьць
прачнуцца зранку
ня торгаць жонку
і выйсьці вонкі
нібыта госьць

пракрочыць паркам
зьвярнуць у арку
на лаўку ўзьлезьці
цяжкім катом
дастаць запалкі
разьдзьмуць цыгарку
схаваўшы голаў у палітон

галінка гнецца
дзе тоўста – рвецца
назад – да шляху
пустой рукі
ня з гумы сэрца
усё мінецца
ды вырашаюць
не кулакі

між гэтых словаў
нямала ловаў
наставіў хтосьці
маёй рукой
жыцьця палову
зьліжа карова
нагбом другую
бы сырадой

**бярозавік**

абдымаю дрэва
прыхінаюся скроньню да яго цела
слухаю наш супольны
старажытны пульс...
падыходзіць ззаду дачка
“тата тата што ты робіш?
табе дрэнна тата?”
“не. абдымі з таго боку.
слухай”...
укладаю яе пальчыкі
ў стыгматы бярозы.
“тата адкуль гэтая рана?”
“ад сякеры”.
ёсьць словы для чытаньня
слуханьня занатоўваньня...
а ёсьць – ні для чаго.
так, усе сапраўдныя словы
ні для чаго...
дзядуля бярэ калаўрот
малаток бляшаныя жалабкі
сьвідруе дзірачкі
убівае жалабкі
падвязвае пластыкавыя бутэлькі...
дома нас чакае працэджаны бярозавік.
але дачка ня п’е...

## лаўцы́ аблокаў

*(верш з шуфляды)*

адпрасаваныя сьцягі
чакаюць Сьвята
у шуфлядах
сыходзяць чэзлыя сьнягі
шумлівым вадаспадам

на Панікоўку крумкачы
з Кальварыі
на кліч шалёны
зьляцеліся сярод начы
ня сьпіцца Завулону

над Пляцам заўтра “рыбакі”
закінуць у аблокі вуды
адпрасаваныя сьцягі
прадвесьце цуду

## Таск, Stockholm

Так, я закахаўся ў цябе
зь першага пагляду
(сьціхніце, гора-філолухі
й абаронцы маралі,
так, закахаўся),
а можа – яшчэ раней,
калі дзясяткі тваіх лепшых дзяцей
вітальна ўсьміхаліся мне
са сьценаў аэрапорту “Арланда”,
калі цудоўная Ан
везла нас у гатэль
і чамусьці хвалявалася,
хаця хвалявацца мусілі б мы,
бо гэта ж мы – іншапланетнікі
(і вочы кіроўцы ў люстэрку
ўсьміхаліся гэтак жа ветла,
як і ў людзей са сьценаў).
Так, ты вельмі хутка завербаваў мяне
ў асабовы склад
сваіх неганаровых месьцічаў,
зьнёс дах,
зрабіў лабатамію,
засяліўшы сюды рагатых чалавечкаў
з прапелерамі, сякерамі, рудымі бародамі
і ў розных панчохах.
Так, ты адкрыў мне,

што нам зь дзяцінства хлусілі,
быццам бы тут жыве
гарэзьлівы абжора
ў поўным росквіце сіл,
які насамрэч апынуўся
дзіцячай шызафрэніяй.
Вось яна –
страшная праўда:
тут ненавідзяць Карлсана!
Так, ты ўсё зьмяшаў.
Гэты міні-Бабілон,
што скача па тваіх вулках,
насамрэч цалкам упарадкаваны:
кожнаму тут ужыўлены
мікрачып з адмысловым заданьнем
і нават сарока
ў дворыку нашага Арт-гатэлю
ведае, на якім суку ёй трэба какаць!..
Дарэчы, мяне перасьледуе думка,
што мікрачып ушыты і ў мяне.
(Так, гэта матрыца,
куды трапляеш, надкусіўшы лакр*ы*цу!)
Так, Стакгольме,
пэўна, і я выконваю заданьне,
а ня проста так бадзяюся ранкамі
па тваіх пустых прысадах
са здымачом,
фоткаючы й так да дзірак
зафотканыя фрагменты:
вось заходжу ў маркет,
набываю асадку “Bic”,
сядаю ля кірхі,
(унутры якой
на к***а***се сядзіць
праколатая дзяўчынка-гот,

*о майн Гот!*
а звонку,
абняўшы сьцяну,
сьпіць нейкая ці тое валацужка,
ці тое проста прасьветленая)
і пачынаю занатоўваць...

*Tack, tack, tack* –
шапчу я табе па-шведску.
*Дзякуй*.
Але паслухай:
каму патрэбны гэты
наш з табою досьвед?
Тыя, у каго замест сэрцаў –
палымяныя маторы,
ня зробяць аніякіх высноў,
нават пражыўшы тут
некалькі жыцьцяў.
Гэтыя ёлупы сьвята вераць,
што ўсе вакол ім вінаватыя,
і нават ты.
Іх нахабныя заточкі
з гостам *made in ussr*
адразу вытыркаюцца
у тваіх стракатых натоўпах.
*Тут па-а ходу есть такая тема!..*
Даруй ім.
І даруй мне...
Так, Стакгольме,
адзінае, што мне застанецца,
вярнуўшыся ў свае цудоўныя гомлі, –
У-вэй*.
*One way...*
*Tack, Stockholm.*

* Хай так *(аўтарскі пераклад з кітайскай)*.

## два ў адным

бы зьмяя назапашвае яд
я захоўваю гукі і пахі
назапашваю новыя смакі
бы зьмяя – назапашваю я…

бы пчала што зьбірае пылок
абліпаю старымі цытатамі
прыкладаю да рулі сьціло
і страляю радкамі кудлатымі

а бывае –
так хочацца проста кагосьці абняць
а бывае –
гатовы дарыць свае скарбы направа-налева
і гатовы ляцець,
але мушу нязрушна стаяць
і маўчаць праглынуўшы і закаркаваўшы
пачуцьці
і словы
і сьпевы

я – зьмяя
час скідаць састарэлую скуру
я – пчала
час счышчаць закарэлы пылок

пажыцьцёвы студэнт
у зацягнутым пошуку гуру
два ў адным
ідыёт ды гулец
дзеля рыфмы – *ігрок*

## паміж двух

так багата ўсяго ня выказана
існаваньне між явай і вымыслам
у вязьніцы радкоў
і пратухлых цытатаў
пазіраю наўкол
паўпрытухлым паглядам

існаваньне у пастцы
між полюсаў двух –
пад няўмольным прыцэлам
калі цяжка, кажу сабе:
я – ня дух
як зусім невыносна, шапчу:
я – ня цела

## эфект матылька

усё здарылася акурат гэтак,
як і мусіла –
гэтае адкрыцьцё шмат чаго важыць.
вядома ж,
у кожны канкрэтны момант
таго працяглага before
я мог усё зьмяніць,
матыльком скочыўшы ў вакно,
і, прызнаюся,
гэтая думка завітвала ня раз.
але...
WTF?
мне сапраўды шкада мяне –
таго,
які верыў,
таго,
наіўна-ўзвышанага
хрэнавага перфекцыяніста,
таго,
які сапраўды хацеў навучыцца,
таго,
якога ня вернеш
...
шкада
зь яго магло б штосьці атрымацца

## Кім быць

Хто скажа, што лепей цяперашнім сьветам,
быць гамафобам або графаманам.
Лепей, вядома ж, ня тым і ня гэтым.
Лепей быць профі ў сусьвеце прафанаў.

Хто скажа, што лепей цяперашнім часам,
дыктарам быць або мёртвым паэтам.
Кім быць – дыктатарам ці підарасам.
Лепей, вядома ж, ня тым і ня гэтым.

І можаш пісаць хоць сьцілом, хоць сьцізорыкам,
сьцілус нязграбна рыфмуючы з чэлесам.
Неба плюецца халоднымі зоркамі.
Муза санліва нашэптвае: йдзі ты, чэл, лесам.

Незавершанасьць ёсьць адначасова і сінонімам, і антонімам бясконцасьці.

У незавершанасьці – невымоўнае хараство.

Ці была б статуя Венеры эталонам прыгажосьці ў поўным, так бы мовіць завершаным, выглядзе? Ці зрабіліся б раманы Кафкі шэдэўрамі, калі б аўтар здалеў дапісаць іх да апошняе кропкі?

Для паэтычнае ж кар’еры, як вядома, найлепшая кропка – *кропка кулі ў канцы*.

Незавершанасьць захапляе як форма і як метад. Як ня можа не захапляць выкшталцоная, дасканала вымаляваная м*а*ндала. Па форме – гэта вяршыня завершанасьці, між тым, тыбецкая пясочная мандала ад пачатку ствараецца з тым, каб адразу ж па завяршэньні быць разбуранай.

У завершанасьці – догма скону.

У незавершанасьці – жыцьцё і сьвятое права паэта *усё закрэсьліць і потым нанава пачаць*.

...

## парушынка

*(закон не-жалезнасьці)*

над прасьпектам незалежнасьці
маленечкая парушынка
парушала закон непазьбежнасьці
(уключна з законам узаемазалежнасьці
хуткасьці падзеньня цела
й ступені яго жалезнасьці),
кружляючы над коркамі машыннымі
па-над шэрагамі бліскучымі шчыльнымі
дзе за шыбінамі –
самотныя і шчасьлівыя
па-над шчырымі і няшчырымі
над мужчынамі й немужчынамі
па-над ходнікамі мітусьлівымі
над гэтай усёй валтузьнёй мурашынаю –
маленечкае пёрка птушынае
кружляла
аддаляючыся
па-
    ма-
        лу

## **творчаскі напал(м)**

пранізьлівыя пахі
перадвячэрняй вуліцы
мяшаюцца ў пакоі
з сандалам напалам
карнізавыя птахі
глядзяць як трэніруецца
ў сваёй сабачай школе
хадзіць па жэрдцы колі
ў той час як у пакоі
на коўзкім падваконьні
павольна маркітуюцца
дзьвюхногія й любуюцца
на галубоў і колі
ўдыхаючы сандал

***PS***
яны іржуць бы коні
няйначай па прыколе
ці можа па ўколе
няўхільна павышаючы
мой творчаскі напал

## Жанчына з шклянымі вачыма

*Чэснай журналістыцы прысьвячаецца*

Жанчына з шклянымі вачыма
блукае па сутарэньнях.
Жанчына з шклянымі вачыма
шукае сабе найменьне.
Жанчына з шклянымі вачыма
кратае сьцены рукамі
з-пад рук распаўзаюцца шчыліны
зь зьмеямі ды павукамі...
Жанчына з шклянымі вачыма
пільнуе дзіцячыя енкі.
Жанчына з шклянымі вачыма –
ржавыя пашчэнкі.

Яна зазірае уночы
у вокны вашых дамоў,
патухлыя вочы сочаць
за сполахамі сноў.

А зранку яна, магчыма,
ўваскрэсьне у хворых радках.
Жанчына з шклянымі вачыма –
вірусы у мазгах.

Жанчынаў з шклянымі вачыма
становіцца болей штодня.

Іх памнажае з айчынных
тэлеканалаў хлусьня.

Калі ля свае кватэры
яе заўважыш ты,
памятай, што цяперака
не абярэсься бяды.

Жанчына з шклянымі вачыма
блукае па сутарэньнях.
Жанчына з шклянымі вачыма –
д’ябальскае стварэньне.

* * *

*Ціха українская ноч*
*Рэвэ та стогнэ Джып Чэрокі...*

усёневыпадкова
не вы падкова

коска
*какоскакоскакос*

конікі
кон
нікі

цела ляцела
ля цела
цяля
сьцеле
зямля
*мля*

пляшка
пляж
я ж
муляж

дыктую
дык
тую
*to you*
занатую

заначую
з ноўтам
зноў
там

пачатак
пачак-кат
пачакаць
зараза!
зараз
за раз

маці няма
ці ня маці
*цінямаціняма*
ці няма

дзе
едзь
ёш тваю медзь
сьмецьце
сьмерць цэ
цэцэ
дэцэпэ
[...]

*Адэса, 2012.*

## Дарожны

Голаў працуе хутчэй прапарцыйна
павелічэньню голаду.
Хуткасьць сто сорак,
за бортам – зоры.
Колькі шчэ трэкаў да гораду?
Колькі шчэ трэкаў –
пытаецца Слых, –
ліпава-рэпавых
новых і злых?..
(рок бо ня торкае
добры стары)

## Дарога

*Время – поездом вдаль, время – стрелами в Лету,*
*По несжатым полям, по отравленным рекам.*
*По дорогам кривым, по лесам, по болотам,*
*Оставляя кресты, как следы, за собой!*

**К. Кінчаў**

дарога вядзе ў горад
паўз чароды гародаў
паўз краявід гаротны
у горад вядзе дарога

вядзе паўзь яры і пагоркі
паўз травяныя сувоі
пад маўклівым канвоем
першае зыркае зоркі

паўз успаміны ды одум
паўз гаркавы куродым
паўз трызьненьні ды сны
у горад сканалай вясны

## Незавершаны верш

Парушаючы законы
і руйнуючы загоны
у імя былое жарсьці,
не турбуйся, што заганай
тое ёсьць, што закаханы
ты ў сваё няшчасьце.

Безуважны да маркоты,
смокчаш рыфмавы наркотык,
бы нацваю жменю.
Пачуваесься пры гэтым
то вадою, то клазетам,
то царквою, то мячэтам,
то верлібравым паэтам
з боскае кішэні...

Ты сядзіш за маніторам
і на ўсё паклаў з прыборам –
сачыняеш опус.
У мазгах пульсуюць рытмы,
за вакном курсуюць рыбы
і пусты аўтобус.

Незавершаныя вершы
патрабуюць сьвежай ежы
й крышку сілы волі.
Адпусьці ты іх на волю,
клікні “save” і *стань травою...**

---

* на гэтым верш раптоўна абрываецца.

* * *

*(выконваецца на манер жорсткага панк-року
з плаўным пераходам у дэз...)*

надвор'е
выходзіць з-пад кантролю
фінансы
выходзяць з-пад кантролю
жанчыны
выходзяць з-пад кантролю
дачка
выходзіць з-пад кантролю
суседзі
выходзяць з-пад кантролю
мазгі
выходзяць з-пад кантролю
жыцьцё
выходзіць з-пад кантролю
такія справы, анатолю
такія справы, анатолю
такія справы
*аааааааааааааааааааа*

* * *

усё так добра
усё так дробна
і так раптоўна
пісаць грахоўна
і малітоўна
ня трэба стогнаў
сьвятых кароў
скраў кроў
...
усё так ціха
усё так дзіўна
і гэтак дзіка
інтуітыўна
пісаць навобмацак
*good luck*

## дзевяць чарак

ад першае чаркі
адкрываюцца чакры
ад другое
дадаецца спакою
ад трэцяе
саграюся урэсьце я
чацьвяртая
вэрытас вяртае
пятая чарка
зрывае пячаткі
шостая – жорсткая
сёмая – вясёлая
восьмая – дзівосная
пасьля дзявятае
пачынаецца сьвята

* * *

*Калі мы разам – у нас маразм*
**Рыгор Барадулін**

Калі мы ўдвох, –
боб і гарох.
Калі нас трое, –
няма настрою.
Як нас чацьвёра, –
наогул гора.
Калі пяцёра, –
я не ў гуморы.
Як мы ўшасьцёх, –
то ўсё нам пох.
Як нас сямёра, –
па горла мора.
А як васьмёра, –
раблюся хворы.
Як дзевяць нас, –
саўсім атас...

І гэтак далей...
Хто налівае?

## чалавек сядае ў туарэг

чалавек сядае ў туарэг
запускае плаўна рухавік
ён цяпер глядзіць на сьвет паўзьверх
танаваных шыбінаў сваіх

чалавек сядзіць у туарэгу
і ужо праз лічаныя хвілі
раптам падаецца чалавеку
быццам рухавік аўтамабіля

з помпай і сістэмай клапаноў
не тасол па патрубках ганяе
а па колах круціць зноў і зноў
кроў жывую. так – жывую кроў!

і ня патрубкі зусім, а капіляры
у жалезным чэраве пульсуюць
чалавек здымае акуляры
чалавек сябе не кантралюе

ён дрыжыць, ня могучы пацэліць
пальцамі вільготнымі у кнопку
каб адсунуць шкло. па кволым целе
прабягае новая дрыготка

чалавека ў туарэгу йрве
проста на шыкоўную аздобу
на стырно і скураны фатэль
а ўнутры, ў прамасьленых вантробах
трохлітровы рухавік раве

чалавек сядзіць у туарэгу
туарэг сядзіць у чалавеку

## трэйлер

жыцьцё
падобнае да прагляду кінафільма
*(глыбакадумкная паўза)*
у кагосьці
гэта мяккі фатэль, папкорн, далбісараўнд, 3D
і поўная зала.
хтосьці, седзячы ў офісе ў вялізных “лопухах”
забіўшы на дэдлайны, каштарысы ды справаздачы,
трымаючы правы ўказальны на “паўз”
(на выпадак форс-мажора ці шэф-мінора),
утыкае ў казённы манітор.
хтосьці, заліўшы з торэнту сьвежачка, –
не таму што шкада грошай на ліцэнзію,
а таму што няма як чакаць,
бо трэйлер спампаваны ўжо 2 месяцы таму,
і… ну бля… –
глядзіць пірацкую копію з каламутнай карцінкай,
са сьмехам і мацернымі каментамі за кадрам…
хтосьці любіць поўны дубляж,
хтосьці глядзіць з субтытрамі,
а хтосьці – у арыгінале.
і гэта – толькі фармальныя чыньнікі.
пра зьмест і жанры мы нічога не сказалі.
жыцьцё
падобнае да прагляду фільма.
а вы думалі –
наадварот

## нашто

мае дарагія
сябры па няшчасьці
браты па жж
і сёстры па асьцы
завіслыя ў чаце
над прорваю ў жыце
у гэтым бяздарным
бязрадасным часе
у гэтым дасюль не закончаным джазе
у творчым экстазе
лытдыбравым сказе
вы сёстры і брацьці скажыце:
нашто вы марнуеце гэтыя жыцьці?
на што вы марнуеце гэтыя жыцьці?!?
завіслыя ў часе
скажыце…

нашто тыя сваркі і звадкі і цёркі
нашто тыя вартыя сьмеху разборкі
калі мы ляцім да нязнанае зоркі
абмазаўшы воскам здранцьвелыя пёркі
навошта, га, ёлкі-іголкі?..

## Let it be

калі прамаўляе лёс
ня лі недарэчных сьлёз
маўляў як такое са мною
ня трэба каханы мой Ною

калі прамаўляе кон
ня думай, што гэта скон
калі табе нават здаецца
што болей ня тахкае сэрца

ты сам сабе лекар і боль
ты можаш ня менш і ня больш
чым здольны
ты можаш ня горш і ня лепш
ты здольны ня больш і ня менш
ты вольны

калі прамаўляе лёс
ня вый, бы п’ян*ы* матрос
свайму караблю наўздагон
калі прамаўляе кон

калі прамаўляе лёс
ня кідай танных пагроз
у бок шматпакутнага неба
ня трэба Ною ня трэба

## The song – сон

*(Зь непрачытаных лістоў містэра Блюма)*

“Я іду па зьнямелым горадзе,
горадзе без жыхароў,
без аўто, трамваяў, бяз ровараў,
без сабакаў, мянтоў і катоў,
зазіраю ў бязьлюдныя крамы,
сам сабе прабіваю тавар
пад усьмешкі пластмасавых дамаў.
Ў горадзе страчаных мар.

Я брыду па вільготных рэйках,
я брыду й мармычу брыду.
На мае сьсівелыя вейкі
неба гораду лье ваду.
Я блукаю па зьвілістых вулках
без назоваў і без нумароў,
прыкладаю да бруку вуха.
Ў горадзе скрадзеных сноў.

Пасяляюся ў лепшым гатэлі
з добрым відам на вечны агонь,
у якім урачыста гарэлі
ўчора рэшткі ўсіх ерэтыкоў.
Потым горад зьехаў за горад,
і няясна, ці вернецца хто.
Адкрываю ўрачыста корак
і куляю з рыльца шато.

Ён захраснуў у сьветлым пярэдадні
у чаканьні праклятых гасьцей.
Горад-хамелеон ці пярэваранець,
горад закатаваных надзей.
Прыляцела зялёная муза.
(чорт, паблытаў на клаве “з” з “х”),
прагудзела на вуха тры блюзы
і сімфонію ў стылі ска.

Я патрапіў сюды не зьнянацку,
адгарнуўшы старонку пяць,
а калі дачытаў да пятнаццатай,
зразумеў: трэба выйсьце шукаць.
І шукаю яго бяз толку,
бы на Марс эсэмэскі шлю.
Калі зможаш, пакінь візітоўку
на Reception.
*Твой,*
*містэр Блюм*”

...
восень.
палíць.
у мяне ёсьць.
цыгарэта.

...
падпальваю.
іду, трымаючы недапалак,
бы асадку.
амаль не падношу
да вуснаў.
палім.
зь ветрам на двох.

...
паленьне як архетып.

...
у кухонным
мастацкім гармідары
рухаюся між дзецьмі і плітой,
бы эквілібрыст.
ці бусел.
падабаецца.

...
напоўнены пад завязку,
рухаюся нетаропка.
каб не расплюхаць.

...
дзеці хварэюць.
жонка хварэе.
лепш каб я.

...
шасьцігадовае дзяўчо,
рыдаючы,
уцякае ад сваёй
ці тое старой матулі,
ці тое маладой бабулі.
не азірацца.

...
няважна,
пра што пісаць
і як.
важна – чым.

...
у творчых пакутах
скамечыў клаву
затым задушыў мыш
калі надышла чарга манітору
муза вярнулася
пайшоў у краму
набыў клаву
набыў мыш...

*верасень 2009 г.*

...
нічыйны малiньнік ля дарогі
канец верасьня
усё лета аб’ядалі, закатвалі...
цяпер жа –
немагчыма наласавацца

...
кнігу, што дасталася ў спадчыну,
паклаў у кішэнь
гаспадар яе даўно спачыў
ён рупліва зьбіраў сваю вялізную бібліятэку
недарма?..

...
вільготныя капелюшы
гномаў-чырвонагаловікаў
паказваю дачцэ ў высокай траве
а яна плача:
чаму ня я іх знайшла!..

...
над бярэзьнікам дзе мы блукаем
таварняк вязе вагоны
расфарбаваныя стракатымі графіці
яшчэ вышэй паўзуць цяжкія
восеньскія танкі

...
томік ісікавы такубоку
так і не дастаў
з кішэні
захоплены пошукам
і нашто браў?

...
вяртаючыся з узьлеску
сустракаем трох кабет рознага веку
у розных месцах
але падобных рыхтык дачка маці і бабуля
быццам з босхаўскіх палотнаў
яны сышлі ў мае радкі

...
восень.
час засушваць пачуцьці
укладаючы іх гербарыем
між старонак
старое кнігі

*верасень 2011 г.*

**<u>Эрыка Друньгітэ</u>**

*(зь летувіскай)*

**бацьку**

не размаўляй са мною
мовай сноў
не абвяшчай
што ненатолены і сьнегу
на крылцах жоўценькіх сініцаў
не прынось
пасьля таго як падсілкуюся ад сну
пад месяцовымі маімі валасамі
ты сполах не ўключай
што здольны ў цемры бачыць
пакуль напаліцца быцьцё
у стужцы перарывістай дзяцінства
ты толькі падкладзі мне пад павекі
адзіную багіню – маю мову
і пагайдай мяне
пакуль яшчэ я веру
на дзевяцёх галінах
і на сонечнай крывой

і тыя месяцовае валосьсі
сумуюць па табе
і па айчыне
мяне адну у ёй пакінуў
каб мела
цьвік я у душы

## Апошні

і калі няма накірунку для быцьця
калі зьнікаюць сэнсы
скуголю і вусны кусаю мыкаю трызьню
я адкідаю скідваю выпаўзаю
рэчы робяцца пустэчай у якой захрасае будызм
і Хрыстова жыдоўскасьць трушчыцца –
хлеб зямлі
гэта адзінае вымярэньне якому я даю веры

месячны каляндар гнілая трава бадзёрасьць коткі
вада вада вада – гэта ім ня трэба сьведкаў
яны ёсьць
а я ліхаманкава кідаюся ня ведаючы
дзе мой падмурак
на што я абапруся калі раптоўна прыйдзе сьмерць
і выведзе мяне ў даліну поўную шуканага спакою
і выведзе мяне туды
дзе пустэча гэта сьпеўная цішыня і ўсё –
толькі чыстае быцьцё
без значэньняў
дзе мой твар будзе адзіны і незаменны
вымыты сьлязьмі падрапаны зайздрасьцю
заскуголіць ад болю
сьмерць пакажа які ён па-дзіцячаму кранальны
і не дарослы заблукалы ў лабірынце
так і не знайшоўшы любові

бо любові мы вучымся ў дзяцінстве
седзячы за сталом накрытым для вячэры
калі за вакном
сьвеціць месяц наліваючы ў нашыя сэрцы
срэбра тугі
і мы адчуваем якая глыбокая тая вечная вада
якой мы ўсе прагнем – нырнуць зьліцца
і калі цябе вырываюць і пакідаюць аднаго
і табе няма месца за вечаровым сталом
калі ты за дзьвярыма
калі ніколі той сьвятасці ў тваёй талерцы
не было
а ты так хацеў каштаваць
глытаць цеплыню і адчуваць – файна
дакуль ня прыйдзе сьмерць ты будзеш хварэць
на неспатольнасьць
і з просьбай літасьці ў вачох
будзеш грукаць у дзьверы гаспадаў –
па хлеб наш штодзённы
даруйце і я дарую я дарую я – за што?

сьмерць падстаўляе мне белую-белую талерку
і налівае налівае малако шчодрасьці поўні
якое я вып’ю прагна пакуль не суцішуся
пакуль не засну
і калі прачнуся мне будзе дазволена сесьці
за стол накрыты для вячэры – навокал дзеці
шчабечуць і я буду дзяліць ім пароўну
і водар хлеба ўсіх нас зьяднае

* * *

жоўтыя палі хрызантэмаў
белы туман і плач журавоў
гэтае хараство ледзь трываеш
падаецца ў Бога таксама твар кастрычніка

альбо тлумны пошум вадаспаду
ён уносіць прахалоду дрэў
і сьціхае ўнутры жабка існасьці
але ты ёсьць. што яшчэ дадаць

**<u>Эла Гачыяшвілі</u>**
*(з грузінскай)*

## Дай мне сказаць, ма!

*грузінскім паэтам*

Ты радзіма! – на гэта мы асуджаныя,
але калі ты нас доўга ня ўспомніш,
мне загадзя шкада цябе для таго дня,
калі ты спахопісься.
Я паэт, і нават твой кволы ветрык
адужае мяне,
і раніць мяне твой касы пагляд.
Схаваю вершы на дне шуфляды,
бо не жадаю таіцца пад псеўданімам.
І пакуль ты майго каханьня баісься,
стаіць «мудрэц» і парадам кіруе,
пакуль, Грузія, сама ня сьцяміш,
каго ты павінна песьціць.
Навошта тваім дзецям таіцца
пад псеўданімамі?
Закрываю сшыткі вершаў і кладу ў скрыню;
мой страх – твой велізарны сорам,
дай, ма, мне сказаць.
Ты радзіма! – на гэта мы асуджаныя,
але калі ты доўга нас ня ўспомніш,
мне загадзя шкада цябе для таго дня,
калі ты спахопісься.

## Сон у сьне

*Сыну*

Ня бойся, ты ёсьць у мяне, сыне,
У сьне...
Любіць цябе мама,
гаруе мама,
калі ты ў сьне пачынаеш хварэць
і гэтым горам яна шчасьлівая.
Ня бойся, ты ў мяне ёсьць.
У сьне цалуе мама твой жывоцік,
у сьне мые мілую бялізну –
сьмешныя саколачкі ды паўзункі твае,
яблычкамі ды зайчыкамі абмаляваныя.
І ў сьне клянецца імем тваім мама.
Ня бойся, ты ёсьць у мамы,
малочныя струменьчыкі захоўваюць яе грудзі
У сьне... у сьне...
Ня бойся, ты ў мяне ёсьць,
я мама, і я аазіс, я цуд,
у сьне... у сьне...
Мы людзі сну, мы жывем у сьне,
са сну аніяк ня можа выкараскацца
маё санлівае мацярынства...
Даруй, што не змагла цябе нарадзіць,
што ня склалася тваё жыцьцё.
Я ж таксама дарую табе, што ты не нарадзіўся,
і што маё жыцьце таксама ня склалася.
Давай даруем адно аднаму,
што ня здолелі нарадзіць
адно аднаго.

## <u>Барыс Грабеньшчакоў</u>
*(з расейскай)*

### Каліноўскі

*(вольны пераклад песьні “Дубровскій”)*

Калі ў ліхія гады
затхне народнай бядой,
тады начною парой
ціхі, някідкі,
зь лесу выходзіць стары,
а глядзіш – ён зусім не стары,
а даволі-такі малады
красун Ка-
ліноўскі.

Прачніся, мой Беласток,
ня сьпіце, Вільня й Смаленск.
Ня век жа нам ліха цярпець
і плакаць пра хлеб.
Кастусь бярэ аэраплан,
Кастусь узьлятае ўгару
і лятае над грэшнай зямлёй,
і піша на небе:

*Прысьпеў:*

“Ня плач, Маша, я тут,
ня плач, сонца узыйдзе,

скіруй да Бога пагляд,
а то як ён нас знойдзе,
нябесны Ерусалім
гарыць праз холад і лёд,
і вось ён стаіць вакол нас
й чакае, чакае”.

Ён кінуў свой шчыт і свой меч,
шпурнуў у канаву наган.
Ён сьцяміў, што помсьціць ня сьлед
і дыхае вольна.
Ў суворы і скрушлівы час
над намі ляціць яго аэраплан,
прыгожы, як іканастас,
і піша, і пі-і-іша:

*Прысьпеў.*

**<u>Віктар Цой</u>**
*(з расейскай)*

## Перамен!

Заміж сьвятла – выцьвіласьць шкла,
замест агню – дым.
У сетцы календара скрэсьлены дзень.
Чорнае сонца згарае датла,
дзень дагарае зь ім.
На расплаўлены горад падае цень.

*Прысьпеў:*

Перамен! – прагнуць сэрцы здаўна.
Перамен! – просяць вочы сьвятла.
Ў нашым сьмеху, у нашых сьлязах і ў пульсацыі вен:
Перамен!
Чакай перамен!

Электрычнасьць і ўночы працягвае дзень,
і з запалкамі зноў недагляд,
але ў кухні сіняю кветкай гарыць газ.
Цыгарэты ў рукох, чай на стале –
дужа просты расклад.
І больш нічога няма – ўсё знаходзіцца ў нас.

*Прысьпеў.*

Мудрым вокам ніхто не пахваліцца з нас
і умелымі рухамі рук.
Нам ня трэба таго, каб адно аднаго паважаць.
Цыгарэты ў рукох, чай на стале,
кола замкнулася тут.
І вось нам становіцца страшна
штосьці зьмяняць.

*Прысьпеў:*

Перамен! – прагнуць сэрцы здаўна.
Перамен! – просяць вочы сьвятла.
Ў нашым сьмеху, у нашых сьлязах і ў пульсацыі вен:
Пе-ра-мен! Чакай перамен!

Пераме-
наў!..
NOW!

# Зьмест

## III. ПАМІЖ НЕБАМ І СЯМ’ЁЙ



## IV. ДУХОЎНЫ АПГРЭЙД

**V. НЕЗАВЕРШАНЫЯ ВЕРШЫ**

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
“Кнігарня пісьменніка”

Выпуск 43

**ІВАШЧАНКА** Анатоль

# ХАЙ ТАК

Вершы

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Рэдактар *Наталля Русецкая*
Карэктар *Таццяна Сушчэўская*
Вёрстка *Fun Thomas*
Дызайн вокладкі *Сяргей Кандраценка*
Фота *Вольга Бубіч, Ігар Саўчанка*
Правапіс – аўтарскі.

Падпісана да друку 04.04.2013.
Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная. Гарнітура Calibri.
Друк афсетны. Ум. друк. арк 7,2. Ул.-выд. арк 3,2.
Наклад 300 асобнікаў. Замова 2284.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае
прадпрыемства «Галіяфы».
ЛИ №02330/0150300 ад 08.04.2008.
Вул. Брылеўская, 11-44, 220039, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru.
www.by-books.org.

Друк ТДО «НоваПрынт».
ЛП № 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59-4-10, 220047, г. Мінск.